Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№. 1. Вільня, Нядзеля, 3 Студзэня 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.

## З Новым Годам, з Новым Шчасьцем!

### Аб беларускай сялянскай ідэолёгіі.

Ідэолёгіяй завецца кірунак чалавечай думкі, паводле каторай людзі будуюць жыцьцё. І так ёсьць ідэолёгія камуністаў, сацыалістаў, манархістаў, дэмакратаў і іншых кірункаў чалавечай думкі. Паводле гэтых ідэолёгіяў пішуць людзі праграмы, а напісаныя праграмы ўводзяць у жыцьцё.

Значыць, ідэолёгія ёсьць першым плянам, які родзіцца ў галаве чалавека. Ідэолёгію можна параўняць з будынкам, але з той розьніцай, што звыклы будынак складаецца з бярвеньняў або цэглаў, а ідэолёгія складаецца з думак. Думкі вяжуцца ў адну стройную цэласьць і такім чынам творыцца ў галаве чалавека ідэолёгія

Як мы ўжо казалі, ідэолёгію маюць усе кірункі чалавечай мысьлі. Бо без ідэолёгіі ня можна былоб працаваць, так як ня можна былоб будаваць будынак бяз пляну. Сваю ідэолёгію маець і Беларускі Сялянскі Саюз. Якая-ж будзе гэта ідэолёгія?

Перш чым адказаць на гэтае пытаньне, мы павінны прыглядзецца да палажэньня нашага селяніна і параўняць ягонае палажэньне з палажэньнем хацяб фабрычнага работніка; з гэтага параўнаньня і сялянская ідэолёгія стане ясьнейшай.

Даўней палажэньне работніка было шмат горшае за цяперашняе. Машыны зрабілі фабрычнага работніка таксама машынай, якая павінна была працаваць разам са сталёваю. Калі сталёвая машына сапсулася, або зламалася — яе выкідалі вон, а на яе мейсца ставілі новую, лепшую і страйнейшую. Таксама калі людзкая машына, зложаная з цела і касьцей, псавалася або старэла, яе выкідалі вон, а ставілі лепшую, сільнейшую і маладзейшую. Сталёвая машына выкідалася вон і ішла на шмэльц, а людзкая машына ішла ў сьвет на цяжкую долю. Для сталёвай машыны было ўсё адно, ці ляжаць на фабрычным дварышчы, ці ісьці на шмэльц, а для чалавечай было ня ўсё адно. Людзкая „машына“ адчула ўсю сваю нядолю, відзела як выкідаюцца другія падобныя ей „машыны“, дык пачала тварыць сваю ідэолёгію і думаць, якім-бы парадкам палепшыць сваё бытаваньне. А гэтыя думкі ня былі напрасны: яны давялі работніка да арганізацыі.

Вот-жа такім парадкам работнікі дайшлі да праканаҥьня, што трэба зарганізавацца, каб усей грамадой бараніць сваіх інтарэсаў. І цяпер, калі выкідалі бяз дай прычыны аднаго работніка, то за яго браліся ўсе, а калі дрэнна было жыць работнікам на аднэй фабрыцы, то іх паддзержывалі работнікі і другіх фабрык. Такім парадкам паўстала работніцкая салідарнасьць у забастоўках і маніфэстацыях. А забастоўкамі і маніфэстацыямі работнікі здабылі сабе лепшае жыцьцё.

Дзеля таго цяпер палажэньне работніка куды лепшае, чым было даўней, асабліва ў заходняй Эўропе (Бэльгіі, Англіі, Нямеччыне і часткава ў Францыі). Там яны маюць свае магутныя арганізацыі, свой уплыў на ўрад, маюць забяспечаны заработак, а ў Англіі рабочыя каля гарадоў маюць свае аддзельныя дамкі і кавалачкі зямлі. Апроч гэтага работнікі маюць свае „касы хворых“, забяспечаючыя іх на выпадак хваробы, маюць урадовую дапамогу ў выпадку безрабоціцы, а такжа фабрычаую дапамогу ў якім няшчасьці.

На ўсходзе г. зн. ў Расеі работнікі дайшлі да ўлады і там цяпер жыцьцё работніка так перамянілася, што і прыраўнаць ня можна да даўнейшага. Камуністы стараюцца спагадаць работнікам, бо на іх дзержыцца ўся іх камуністычная ўлада.

З гэтага відаць, што цяпер усюды работніку лепш чым, было даўней. Я не кажу, што жыцьцё ягонае заўсім добрае, не, я далёкі ад гэтай думкі, я толькі сьцвярджаю факт, што доля работніка цяпер лепшая, чым даўней была і гэтую долю ён выкаваў сам сабе сваім крывавым мазалём.

А цяпер глянем, якая доля нашага селяніна і параўняем яе з доляй работніка.

Перад усім праца. Работнік на фабрыцы працуе 8 гадзін, а работнік на вёсцы працуе часам 16 гадзін у пару. Работнік мае сталы заработак і забяспечаны быт, а селянін сталага заробку ня мае і быт ягоны нічым не забяспечаны. Калі пацярпеў упадак або калецтва, ніхто з помачай ня прыйдзе. Работнік працуе адзін, а селянін гоніць на работу сваю жонку, дзяцей—словам усіх хто ёсьць у хаце.

Апроч гэтага работнік мае доступ да культуры. Ен жыве ў горадзе, можа пасылаць сваіх дзяцей у школку ніжэйшую або вышэйшаю, ён можа карыстацца з бібліятэк, курсаў, тэатраў і другіх культурных установаў—словам, работніку даступней да культуры чым нашаму селяніну. Затым работнік сьведамы і граматны, а селянін цёмны і нявучаны.

Работнікі маюць уплыў на ўрад у кожным гасударстве, а селянін гэтага ўплыву ня мае. А ў Расеі работнікі зрабіліся пануючай клясай, дыктуючай свае правы другім клясам, у тым ліку і сялянам, а сяляне, каторых усюды большасьць, мусяць слухаць прыказаў маючых уладу. Апроч усяго гэтага селянін прымушаны плаціць падаткі і утрымліваць дзяржаву, а работнік гэтых падаткаў не плаціць і сваей працай зарабляе для сябе толькі на кавалак хлеба, зваліваючы ўвесь цяжар утрыманьня дзяржавы на плечы селяніна. У Расеі фабрычны работнік цяпер зарабляе толькі на сябе—і лішка працы ў яго не астаецца, а селянін зарабляе на сябе, а лішку працы аддае на карысьць дзяржавы. Значыць, селянін дзяржыць і корміць дзяржаўны апарат у Расеі, бо іншых прадуктыўных клясаў, акрамя рабочага і селяніна, у Расеі цяпер няма. Урэшце, калі верыць тэорыі, што для жыцьцёвых патрэб чалавека хваціць толькі 8 гадзін працы ў дзень, то куды дзяецца тая лішка працы селяніна, каторы працуе, як мы ўжо казалі, не 8, а часам 16 гадзін?

Гэта самае можна сказаць і аб другіх дзяржавах Эўропы. І чым балей будуць работнікі здабываць для сябе правоў і прывілеяў, тым меней яны будуць прадукаваць; а чым меней будуць прадукаваць—тым болей цяжару ляжа на селяніна ў падтрыманьні дзяржаўнага жыцьця. Гэты апошні сказ будзе, здаецца, аксыоматам (яснай праўдаю), якому ніхто ня будзе нават пярэчыць.

Вот да якіх сумных вывадаў мы дайшлі, раўняючы палажэньне работнікаў і сялян.

Што-ж рабіць?

На гэтае пытаньне даюць адказ і работнікі і сяляне. Але даюць кожны з свайго пункту гледжаньня.

Работнікі, ідучы за теорыяй соцыялізму і комунізму, хочуць ня толькі фабрыкі зрабіць супольнай уласнасьцю, але і другі абшырны варштат працы і жарало прадукцыі г. ё. *зямлю*. Па іхнаму трэба аб'явіць зямлю ўласнасьцю ўсей грамады, усей вёскі, або ўсяго народу. Трэба завесьці такі самы лад і парадак, як і на фабрыцы, — гэта значыць: 8-мі гадзінны рабочы дзень (летам трошка болей); супольнасьць зямлі і супольнасьць працы; роўнасьць падзелу прадуктаў — словам, з вёскі зрабіць фабрыку, або вялікі двор, дзе людзі будуць роўна працаваць і роўна зарабляць. Машынамі ў такой сялянскай фабрыцы быліб: плуг (ручны, паравы), бароны, сеялкі, жнеяркі, малацілкі, косы, сярпы і г. д., а варштатам—уся грамадзкая зямля, якую людзі абрабляліб. Над усім гэтым стаяўбы цівун, або дзяржаўны намесьнік, які выдаваўбы загады, вызначаўбы работу і дзяліўбы прадукты. Вот такі спосаб даюць работнікі паводле сацыялістычнай, або камуністычнай ідэолёгіі.

Гэтакі чыста камуністычны спосаб ідэолёгіі работнікаў думаюць прытарнаваць да селяніна і нашы камуністычныя дзеячы.

А што-ж на гэта селянін? Селянін такога спосабу выражэньня зямельнага пытаньня ня хоча і з работніцка-камуністычнай ідэолёгіяй не згаджаецца. Селянін кажа: 1) што ня можна завесьці роўнага падзелу працы і роўнага часу працы; 2) што выдайнасьць работніка працуючага на ўласнай зямлі куды большая за выдайнасьць парабка, або працаўніка ў камуне; нарэшце 3) кожны селянін імкнецца не да прыгону (будзе гэта дзяржаўны ці які

іншы прыгон), а да большай свабоды, а гэтакую свабоду даець уласная гаспадарка. Вот якая ідэолёгія нашага селяніна! Ен кажа: даволі прыганятых, няхай жыве свабода працы і прадпрыемства!

Знаючы аб такіх пажаданьнях нашага селяніна, людзі пачалі працаваць над ідэолёгіяй сялян і думаць над тымі спосабамі, якімі можна было-б направіць сялянскую долю. Над ідэолёгіяй работнікаў працавалі тысячы вучоных людзей. А працавалі таму, што работнікі сваей сілаю прымушалі лічыцца з сабою і застаўлялі думаць над работніцкім пытаньнем нават буржуазныя галовы, а другое, што з самых работнікаў выходзілі вучаныя людзі, якія працавалі над ідэолёгіяй свае роднае клясы. Над сялянскай ідэолёгіяй дагэтуль мала хто працаваў, бо сяляне, як незарганізаваная маса, яшчэ не прымусілі з сабою лічыцца і яшчэ ня было вучаных людзей спасярод самых сялян. Цяпер часы зьмяняюцца: сяляне пачынаюць арганізавацца („Беларускі Сялянскі Саюз") і з самых сялян выходзяць вучаныя людзі, каторыя думаюць над палажэньнем свае роднае сялянскае клясы і працуюць над ейнай ідэолёгіяй. Вот тут і ляжыць тая прычына цяперашняга сялянскага руху і апрацоўкі сялянскае ідэолёгіі.

А глаўнай прычынай гэтага руху будзе сапраўды гарутнае палажэньне нашага селяніна, каторае з кожным днём усё горшае. Гэта відзяць усе; селянін ужо дабывае пасьледніх сіл, каб неяк пражыць самаму і пракарміць сваю сямью. Асабліва гэта датычыць малазямельных і беззямельных. Дык справы адкладаць ня можна, а трэба брацца дружна за работу. Прыкладам у гэтай рабоце могуць і павінны быць нам рабочыя. Чым яны здабылі сабе лепшыя варункі? Адказ будзе адзін: *усьведамленьнем у сваіх клясовых справах і дружнай арганізацыяй.* Гэтая дарога пэўная — мы відзім, што яна давяла работнікаў да вялікіх здабыткаў. Гэтаю-ж дарогаю павінны ісьці і сяляне. Дык яны павінны паставіць сабе такія пункты:

1) Клясавае усьведамленьне і сялянская арганізацыя;

2) праз выбары здабыць сабе ўплыў на ўрад і гэтым бараніць свае сялянскія здаровыя інтарэсы;

3) навязаць зносіны з работнікамі і завесьці роўны падзел працы, прадукцыі і цяжараў, каб ня было для нікога крыўды.

Вот будуць тыя пункты, каторыя стаяць на парадку дня. І сяляне гэта павінны зрабіць, бо іх мільёны, куды болей чым фабрычных работнікаў.

А як сьвятлейшыя сыны работнікаў змагаліся за лепшую долю рабочага пралетарыяту, так павінны сыны сялян змагацца за лепшую долю рабочай сялянскай клясы. І гэта яны робяць.

**Горскі.**



**Васіль Рагуля**

Пасол на Сойм Рэчыпаспалітай Польскай.

Васіль Рагуля радзіўся ў 1879 годзе 3-га ліпня ў сялянскай сям'і вёскі Ачукевічы, Любчанскай вол., Навагрудскага павету.

Па сканчэньні пачаткавай школы, скончыў вучыцельскую сэмінарыю ў Маладэчні ў 1898 г. Праслужыўшы вучыцелем пачатковай школы 5 гадоў, уступіў у Віленскі вучыцельскі інстытут, які і кончыў у 1906 г. Будучы ў інстытуце і па сканчэньні яго, прымаў удзел у рэвалюцыйным руху, за што і быў арыштаваны і пасаджаны ў Навагрудскую турму ў 1907 годзе. Па выхадзе з турмы адзін год ня меў права быць вучыцелем і дзеля гэтага сядзеў дома на гаспадарцы.

У 1908 годзе атрымаў пасаду вучыцеля гарадскога вучылішча ў Смаргонях, а ад 1910 году служыў гэтакім-жа вучыцелем у Менску ў трэцім гарадскім вучылішчы. Будучы тут вучыцелем, працаваў у партыі трудавікоў разам з вядомымі адвакатамі Валынскім, Мятлівым і другімі, дзе заўсёды цьвёрда стаяў на грунце абароны сялянскіх інтарэсаў.

Пад час выбараў у другую Дзяржаўную Думу працаваў у газэце менскіх трудавікоў, дзе і друкаваліся яго стацьці. За стацьцю „Сялянскія думы аб Думе" газэта была сканфіскавана, а рэдактар Валынскі быў аддадзены пад суд. Пасьля В. Рагуля быў прызваны ў войска падчас вайны, з якога вярнуўся ў Менск у 1918 г. Па заняцьці Менску палякамі ён пераехаў у родную вёску і сваімі ўласнымі рукамі да выбараў на пасла вёў сваю невялікую вясковую гаспадарку, саўсім зьнішчаную вайной.

У 1922 г. адважнаю агітацыяй зрабіў тое, што Навагрудскі вокруг даў найбольш паслоў беларусаў у Польскі Сойм.

Рагуля зьяўляецца адным з закладчыкаў Белар. Сялян. Саюзу, дзеля якога дужа многа працуе, арганізуючы яго і пашыраючы сярод шырокіх сялянскіх масаў.

# ПРАМОВА

## пасла кс. А. Станкевіча ў Сойме 29.XII. 25 г. у справе платы падаткаў натурай.

Высокая палата!

Мае прадмоўцы ўжо даволі выказалі ўсю безпадстаўнасьць, нелёгічнасьць і шкоднасьць для сялянства, зложанай праз урад уставы, у справе платы падаткаў натурай.

Будучы аднак прадстаўніком прадусім сялянства, я мушу також ўзяць голас, каб на гэту справу выявіць свой погляд.

Прадусім мушу сьцьвердзіць, што устава гэта сьведчыць аб сапраўды вялікім упадку гаспадарчага жыцьця Польшчы, але також мушу зазначыць, што ратунку для жыцьця гаспадарчага устава гэта не даець, а нават яго больш пагоршвае. Прыпамінае яна нам часы ваеннага комунізму ў Расеі, з тэй толькі разьніцай, што там падобнага падатку, званага „Продналогам" ужо няма, а ў Польшчы ўрад цяпер яго дабіваецца.

Устава гэта сапраўды нелёгічная і ў сваіх падставах памылковая. Яна наводзіць нашы думкі на такія разважаньні. Урад уносіць у Сойм яе прадусім дзеля таго, што сялянскія масы надта часта ня могуць плаціць падаткаў грашмі. Дык пытаюся, чаму гэта так? А таму, што ня маюць яны ў сваей гаспадарцы нічога лішняга: ані жывіны, ані прадуктаў на продаж дзеля здабыцьця патрэбных грошай на падаткі. А калі так ёсьць, то ўзноў пытаюся, скуль-жа селянін, асабліва пры так зруйнаванай гаспадарцы, як на нашых землях, можа мець патрэбны запас прадуктаў, каб натурай заплаціць падаткі? Рэч ясная, што раз селянін ня мае грошай, дык також ня мае на іх і прадуктаў. Адным словам, устава гэта пабудавана на зачараваным коле, з ягога ня відаць ніякага выхаду.

Апрача гэтых агульных уваг аб успомненай уставе, мушу прыпомніць у ёй некаторыя паасобныя мяйсцы, што выразна пацьвярджаюць мой на яе погляд.

Устава гавора, што браць падаткі натурай належыць тады, калі падаткі грашмі ня будуць аплачаны ў працягу 14 дзён ад дня наказу. Вось-жа падчоркаваю, што гэткі тэрмін сусім кароткі. Ці-ж можна ў працягу 14 дзён прадаць сялянскі прадукт па адпаведнай цане, або хоцьбы дзе пазычыць грошы на падаткі? Хто знае варункі сялянскага жыцьця і псыхолёгію селяніна, той також знае, што гэткія вымогі уставы да нічога непадобныя.

Праўда, устава кажа, што няможна забіраць на падаткі прадуктаў, якія патрэбны дзеля сяўбы, выжыўленьня самога гаспадара і яго скаціны. Але прыгожа гэта выглядае толькі на словах, бо ўстава сусім не азначае, сколькі патрэба насеньня на засеяньне, скажам, аднаго гэктара, сколькі, на які час і якіх трэба прадуктаў для пражыцьця гаспадара і жывога інвэнтара. Гэта ўсё ўстава абыходзе маўчком і, рэч ясная, дае магчымасьць, каб чыноўнікі, спаганяючыя падаткі, дзёрлі з селяніна астаткі, або выраблялі на карку таго-ж селяніна рознага роду спэкуляцыі.

Далей ўстава кажа, што рольныя прадукты, як аплату падаткаў, будуць рахаваць паводле рынкавай цаны. Тымчасам, як ведама, цэны на сялянскія прадукты дужа нізкія, яны шмат ніжэйшыя за цэны на тавары фабрычныя, а як зачнуць гэтак востра спаганяць падаткі, пэўне-ж многія сяляне будуць прадаваць свае астаткі, а такім чынам цэны яшчэ панізяцца, а дзеля гэтага таму, каму прыдзецца падаткі плаціць прадуктамі, трэба іх будзе нязвычайна многа. А з гэтага усяго вынік адзін — яшчэ большае пагоршаньне і так ужо нязноснага жыцьця нашага селяніна.

Арт. 3 уставы гавора аб рэчах, каторыя выглядаюць на зьдзекі над селянінам: мала таго, што на падаткі зьдзяруць з яго астатнія рольныя прадукты. Яшчэ ён мусіць сам гэта ўсё завезьці на зборны пункт, які азнача ўлада. Гэта ўжо сапраўды пахне крыху паншчынай!

# МАРСЫЛЬЕЗА.

Калі народ францускі, больш за 130 гадоў таму назад, страсануўся, каб скінуць прыгон сваіх паноў і багатыроў, адзін з паэтаў гэнага вялікага народу, у лятуценным захопленьні будучынаю сьветазарнаю—напісаў песьню—гымн. Тую песьню—гымн завуць марсыльезаю, таму што пялі яе найбольш спярша ў горадзе Марсылії і ваколіцах, пакуль не распаўсюдзілася яна па ўсенькай Францыі, а потым па ўсенькім сьвеце. Іншыя народы прачыхаліся адныя раней, другія пазьней, адныя каб страхануць панскі прыгон, другія—каб скінуць дзяржаўнае паняволеньне, трэція—каб прачхнуцца ад нацыянальнага сну—паняволеньня. Шмат народаў жыве і амаль кожны з іх мае сваю марсыльезу, якую пяе ён часта, заўсёды, калі толькі сабярэцца колькі чалавек тае нацыі дзеля іх агульнае справы, а пяе—каб паказаць еднасьць, каб паказаць, што яны жывуць, што думаюць аб сваім народзе, каб выявіць каханьне бацькаўшчыны.

Марсыльезу маем і мы нашую, беларускую. Драмалі мы доўга, даўжэй за іншых народаў, пакуль сонца праўды і нас не закранула, пакуль і нас яно ня клікнула да супольнае працы ў вялікай дружыне народаў. Чаму мы гэтак доўга драмалі, ня ведаючы, хто мы — хто-ж адкажа?!

Розум чалавека нядужы, абмяжованы, скуль ён здоляе спазнаць усенькія таёмнасьці жыцьця. Трэба памятаваць толькі, што калі прамень праўды нам паказаўся, што калі мы праз сябе ці праз добрых людзей пачулі—хто мы такія, дык трэба імкнуцца, каб мой сусед, сваяк, знаёмы ня быў пакрыўджаны, каб і ён спазнаў, хто ён такі. І хутчэй, усе хутчэй будзем імкнуцца да тае хвіліны, калі ніводнага чалавека на нашай зямельцы, калі ніводнага Беларуса ня будзе такога, каб ня ведаў аб сабе, хто ён такі. Дагэтуль ведалі мы ўсе, што тутэйшыя мы, сыны свае зямлі, а праз доўгі сон забыліся аб іменьні сваім. Прышла пара ўспамянуць, зварухнуцца, закратацца, бо суседзі апярэдзілі нас даўно. Даўно ўжо спазналі — хто яны—даўно працуюць на віўцы сваёй, а прад намі шмат работы. Прад намі, сынамі нашымі вялікая работа — зямлю здабыць, сваю школу збудаваць, свае кніжкі пісаць, праганяць бяду з палеткаў сваіх, каб голаду ня ведаці больш.

Кажуць — душа праяўляецца ў песьнях, таму з марсыльезы лепш яе яшчэ відаць, бо марсыльезу прымае за сваю ўсенькі народ, кожнаму дарагая яна, бо ў ёй, паючы яе, мы пачуваем братам, сястрою, кожнага, хто з намі ці далёка ад нас адгукаецца на словы яе. Шмат марсыльезаў прыгожых, найпрыгажэйшаю кожнаму свая. Нам, значыцца, нашая беларуская, у ёй паказана ўсенька, чаго хоча народ, якія злыбяды мучаць яго. Гляньце-ж толькі, успамянеце на пачатак нашае песьні—гымну:

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі!
Мы знаем, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба навуку здабыць!...

Гэта вялікая частка, найбольш сумная і адначасна радасная, нашае гісторыі, лёсаў беларускага народу. Мы не заўсяды спалі, калісь жылі мы, цьвілі, красавалі, шчасьлівыя былі, шчасьця чужым яшчэ пазычалі. Аднэлька-ж колькі вякоў таму назад заснулі, заснулі гэтак, што забыліся людзі аб нас, дый самыя аб сабе пачалі забывацца зусім. Сумна глядзець, калі чалавек сьпіць, дрэмле, заместа таго, каб працаваць, рабіць тое, да чаго паклікааны ён!

Але ня толькі сум лунае ад думкі, што дрэміць ці сьпіць народ, бо сон ня сьмерць—прападзе ён калісь. Ніхто вечна ня сьпіць, навец *) з дамавінкі не краненца свае, а сон кончыцца раней ці пазьней. Вось чаму радасьць таіцца ў словах, што кажуць аб сьне народу. Ён прачнецца, вернецца жыць, схопіцца за плуг, ганяць барозны пойдзе, зярняткі кідаць у ральлю.

Не здарма былі радосныя спадзяваньні, бо той самы радок нашае песьні кажа аб народзе, што яго разбудзілі, калі прышла яму пара.

Кінуўшы спаць народ ня чухаўся, не пазіраў на цёплую пасьцель, ня думаў, за што брацца яму, бо гаспадарка, пакуль ён спаў, расьцярушылася, нічагусенькі не асталося з колішняга багацьця. Не! ён не надумляўся, ў які бок яму схіліцца, а зразу кажа, што ведае—у які бок кранууцца трэба яму. Ён сплючы яшчэ быццам сьніў, што калі прачнецца, дык свабоды насамперад будзе дабівацца. Без свабоды-ж немагчыма нічога зрабіць. Калі хто звязаны па руках і на-

Нябошчык.

Урэшце ў арт. 5 уставы гаворыцца, тшо калі б селянін падатку натурай на свой кошт не даставіў, куды скажуць, то можна яго аштрафаваць аж да 3 тысяч зл.! Гэта ўжо нешта сусім нябывалае і проста грознае для селяніна. Гэты артыкул дасьць магчымасьць уладам зьдзекавацца над селянінам паводле сваей волі. Дужа магчыма, што калі які чыноўнік закапрысе, то сапраўды зажадае кары з селяніна аж 3 тысячы зл.! А заплаціць такую фантастычную кару агулам, а асабліва сяньня, ня зможа ніякі селянін.

Словам, замест таго, каб палегчыць жыцьцё нашаму прыдушанаму селяніну, каб дапамагчы яму загаспадаравацца і гэтым самым гаспадарку яго зрабіць больш прадукцыйнай, на яго далей накладаюцца немагчымыя і невыканальныя цяжары, да рэшты руйнуючыя яго гаспадарку.

Канчаючы сцьвярджаю, што ўрад, уносячы ў Сойм гэтую устазу, ня меў на мэце нічога іншага, як толькі інтэрэс места, проціў сялянства. Рэч ясная, што Беларускі Клюб, прадстаўляючы прадусім сялянства, на гэткую уставу ня згодзіцца ніколі і будзе галасаваць проціў яе.

# КВЕТКІ.

Усьцешылі мяне кветкі,
Рассыпаўшысь праз ваконьне,
Ручкі маей малалеткі
Рассыпалі гэты кветкі:
І вось радасьць, вось бязсоньне!

Жывуць кветкі, кветкі вянуць...
Сэрца шчэміць так бязвольна —
До'ль на кветкі толькі глянуць,
Усенькі змыслы папрыстануць:
Сэрца б'ецца бязкрытольна.

Тваіх кветак пах, міленька,
Мяне дзівам абвявае;
Дай мне кветку, даражэнька,
І скажы ўсё — усенька:
Каму сэрца спагадае?

**К. Сваяк.**

# Гаспадарчы аддзел.

## Земляробскі крызіс.

Палажэньне, у якім знаходзіцца пасьляваеннае земляробства, можам назваць земляробскім застоем.

У цяперашнім вытворчым ладзе, апёртым на індывідуальнай ініцыятыве, адзіным пабуджаючым да гаспадарчай чыннасьці дзейнікам зьяўляецца ахвота атрыманьня з сваей працы якнайбольш заработку. Аканчальны аднак рэзультат працы, яго вартасьць не заўсёды залежыць ад самога напяцьця працы, а ад цэлага клубка прычын, якія неразрыўна зьвязаны з абаротам тавараў і ўмовамі вытвару. Дык тут паўстае пытаньне: ня колькі праца вытварыла тавару, а колькі вытвараны тавар варт на грошы? Чым большая будзе вартасьць тавару ў грошах, тым большая будзе ахвота вытвараць тавар. Рэч ясная, што з агульнай вартасьцю тавару цесна вяжыцца яго цана, або вартасьць адзінкі (вагі, меры, штукі) гэтага тавару, выражаная ў грошах.

Гэтая цана на пэўныя прадукты зьяўляецца адным з самых чуткіх баромэтраў, якія гавораць аб палажэньні данай галіны вытвару—аб гаспадарчай конюнктуры—аб ажыўленьні, або застою (дэпрэсіі) вытвару.

Пасьляваенныя цэны на земляробскія прадукты выразна гавораць нам аб застоі ў земляробстве, аб земляробскім крызісе. Земляробскі крызіс выяўляецца ў паніжэньні закупнай здольнасьці вялікіх і малых земляробаў, у спадку агульнай вартасьці земляробскіх прадуктаў. Гэты спадак агульнай вартасьці зямельных пладоў у часах пасьляваенных наступіў так сільна, што земляробская люднасьць мусіла перайсьці на горшае жыцьцё — абяднела. Бо, калі скажам, што перад вайной фабрычная вопратка, якую закупляў земляроб каштавала 20 рублёў, то цяпер за такую вопратку трэба заплаціць каля 40 рублёў. Такім чынам цана вопраткі адносна да перадваеннага часу паднялася ў два разы, або на 100%. Адначасна з гэтым збожа, жывёла і іншыя земляробскія тавары калі не асталіся на перадваеннай цане, то падняліся вельмі мала, і ў кожным выпадку (за выключэньнем цаны малочных прадуктаў) не даганяюць цэнаў на тавары прамысловыя.

Выступаець тут зьявішча называнае „нажніцамі", якія перад вайной былі зачынены, а цяпер раздвоіліся, так, што адзін іх канец знаходзіцца вышэй, а другі ніжэй; вышэйшы канец паказвае цэны прамысловых тавараў, а ніжэйшы — цэны прадуктаў земляробскіх. Дзякуючы таму, што цэны зямельных прадуктаў не адпавядаюць цэнам прамысловых тавараў і што гэтая розьніца прыпадае на карысьць прамысловага вытвару, гаспадарчае палажэньне земляроба шмат пагоршылася.

Каб купіць патрэбны яму фабрычны тавар, ён мусіць прадаць у два (а то і больш) разы больш прадуктаў сваей працы, чым перад вайной. А дзеля таго, што земляроб ня змог на столькі павялічыць свой вытвар, каб магчы зраўняць розьніцу агульнай вартасьці пладоў сваей працы, выцякаючую з прычыны розьніцы цэнаў прамысловых і земляробскіх прадуктаў — ёсьць ён змушаны рабіць рэдукцыю сваіх закупаў, зьмяншаць ужыцьцё прамысловых тавараў. Адным словам, земляроб пачаў бяднець, і ў такой вялікай меры, што няможа нават ён здаволіваць самых неабходных патрэбаў, зьвязаных, з культурай і цывілізацыяй нашых дзён.

Статыстыка выказвае, што ў Польшчы ужываюць цяпер толькі $1/3$ часьць ліку валакністых тавараў (мануфактуры), які быў ужываны перад вайной.

Селянін ня можа цяпер купіць лепшай вопраткі, ня можа справіць сабе ботаў, ня можа набыць земляробных прыладаў, штучных навозаў, лепшага насеньня, газы і інш., бо цэны на тавары яго працы не пазваляюць яму на гэта, а іншыя дадатковыя заработкі, у зьвязку з агульным застоем гаспадарчага жыцьця, для яго сусім не існуюць.

Можа каму будзе здавацца, што багацьце гаспадара залежыць ад ураджаю, або не ўраджаю? Вот-жа хаця ураджай і зьяўляецца пажаданым для земляроба, аднак не заўсёды прыносе ён з сабой канечна карысныя рэзультаты. Маем тут на ўвазе земляроба, які вытварае земляробскіх тавараў больш, чым іх спажывае ў сваей гаспадарцы. Добры ўраджай можа для земляроба выказаць тры розныя рэзультаты: 1) калі агульная вартась земляробскіх прадуктаў павялічыцца —гаспадар пабагацее, 2) калі агульная вартасьць астанецца тая самая і 3) калі агульная вартасьць земляробскіх прадуктаў зьменшыцца—гаспадар пабяднее.

Возьмем прыклад для першага выпадку. Дапусьцім, што селянін вытварае нармальна ў сярэднім ліку 200 пудоў збожа, з якіх 100 спажывае ў сваеў гаспадарцы, а 100 мае на продаж па цане 1 рубель. Прадаючы гэта збожа гаспадар атрымлівае 100 рб., атрымлівае 100 адзінак закупнай сілы, за якія можа набываць патрэбныя яму прамысловыя прадукты. Наступае, дзякуючы прыродзе, лепшы ураджай і гаспадар атрымлівае 225 пудоў збожа; ураджай узрастае на $12\frac{1}{2}\%$. 100 пудоў збожа спажываецца на мейсцы, а 125 пудоў астаецца для прадажы. Калі-б цана збожа асталася тая самая, то гаспадар атрымае за яго 125 рублёў, або 125 адзінак закупнай сілы. У гэтым выпадку гаспадар атрымае на 25 адзінак больш закупнай сілы і ў зьвязку з гэтым можа павялічыць свае закупы прамысловых тавараў. Палажэньне гаспадара палепшыла, бо ён мае з прычыны лепшага ураджаю большую закупнўую сілу, можа больш скарыстаць прамысловых тавараў і можа пабагацець. Таксама гаспадар пабагацее, калі на'т цана на збожа трохі спадзе, але будзе вышэй 80 кап. за пуд.

Бяром цяпер другі выпадак, калі ў зьвязку з лепшым ураджаем цана на збожа з 1 рубля спадзе на 80 капеек. У гэтым выпадку гаспадар, прадаючы 125 пудоў збожа, атрымае 100 рублёў, або 100 адзінак закупнай сілы. Відзім, што агульная вартасьць ураджаю не зьмянілася,—як сярэдні нармальны ўраджай, так і лепшы ўраджай прыносяць гаспадару адзінакавыя карысьці. Гаспадар на добрым ураджаі нічога не зарабіў, яго гаспадарчае палажэньне не зьмянілася. Дзе-ж дзеліся тыя 25 пудоў збожа, якімі прырода абдарыла гаспадара? Усе яны перайшлі да тых, якія закупілі ад селяніна збожа, перайшлі да гарадзкой люднасьці задарма, бо гэта люднасьць за тыя самыя грошы, за тую самую закупную сілу купіла збожа на 25% больш пры лепшым ураждаю. У гэтым выпадку ураджай палепшыў палажэньне люднасьці занятай прамысловым вытварам і сусім не зьмявіў палажэньня земляробаў. Закупная здольнасьць гаспадара асталася тая самая; можа ён закупляць прамысловыя тавары толькі ў такім ліку, як пры сярэднім ураджаі, запатрэбаваньне і ўжыцьцё прамысловых тавараў ня зьменіцца, астанецца тое самае.

Бяром цяпер трэці выпадак. Дапусьцім, што ў зьвязку з лепшым ураджаем, з большай падачай земляробскіх прадуктаў, цана на збожа спадае да 75 капеяк. Прадаючы 125 пудоў, гаспадар атрымае 95 р., або 95 адзінак закупнай сілы. У гэтым выпадку, ня гледзячы на лепшы ураджай, агульная вартасьць збожа зьменшылася. Гаспадар атрымаў на 5 адзінак менш закупной сілы, палажэньне яго пагоршылася— ён пабяднеў. Уся надвышка лепшага ураджаю, і яшчэ больш чым надвышка добрага ўраджаю, перайшла на карысьць людпасьці, занятай ў промысьле. Апрача таго гаспадар пабяднеў, ня можа ён ужо за 100 адзінак закупнай сілы купляць прамысловыя тавары, а толькі за 95, і такім чынам карыстаньне з прамысловых тавараў зьмяншаецца, зьмяншаецца запатрэбаваньне на прамысловыя тавары. Наступае нарушэньне раўнавагі між вытварам і ўжыцьцём і ўжыцьцём і вытварам у асобных галінах гаспадарчага жыцьця.

Як відзім, толькі ў адным выпадку добры ураджай выйшаў на карысьць гаспадара, а ў двух на яго некарысьць. (Далей будзе).

**А. Більдзюкевіч.**

# З Радавай Беларусі.

## Аб перасяленьні Беларусаў.

Сяляне, якія жадаюць перасяляцца з БССР, павінны падаваць заявы ў акруговыя зямельныя аддзелы.

З 1 чэрвеня 1926 г. пачнецца адпраўка хадакоў.

За апошні год паступілі заявы на перасяленьне ад 8.861 сем'яў (52.626 душ).

Адпраўлена 799 хадакоў — ад 4.067 сем'яў (29.316 душ).

Перасялілася за год 4.512 душ (953 сем'і).

Пераважна перасяляюцца ў Сібір—35,2 проц., на Далёкі Усход—16,8 пр., Паваложжа—10 пр., Паўночны Каўказ—8,1 пр., Данскую вобласьць, Адэскую губ. і інш.—28,9 пр.

(„Сав. Бел." 8.XII.25.).

гах — нічога ня здоляе, нічога ня здужае. З голаду памрэ, бо рукою куска хлеба ня схопіць, калі звязана будзе яна. А таму насамперш свабода, незалежнасьць там, дзе патрэбна яна мне, дзе жыць без яе я не змагу.

Народ аб гэтым не забыўся, хаця доўга спаў; першае слова яго пасьля сну — гэта жаданьне свабоды.

Каб мець свабоду—трэба жыць, каб жыць—трэба есьці. Маем зямлю на тое, каб гаручы, сеючы яе — галодныя мы ня былі, каб змаглі пракарміць сябе і дружыну сваю. Без зямлі хлеба няма. Беларус меў права на зямлю, ён аб ёй скрозь сон лятуцеў, бо ведаў з досьледаў сваіх і чужых, што без зямлі—свабоды няма.

Зямлі хопіць усім, няхай надзелы будуць людзям такія, як сьледуець. Няхай ня будзе такіх, што ня ведаюць межаў гаспадарак сваіх, што зямелькі ня бачаць ніколі, што хочуць жыць з яе, поту свайго не праліваючы, мазалёў на руках не націраючы, мазгамі не варушачы. Пакуль ня згінуць пропадам дармаеды такія—датуль дрэнна будзе на сьвеце, датуль будзе голад, прага зямлі, ненавіснасьць адных да другіх.

Свабода і зямля—ці ўсенька, чаго хоча беларускі народ? ці даволі яму ўжо? Не! ён кажа, што хочучы здзейсьніць мэту сваю, трэба яму яшчэ навуку здабыць. Без навукі цяжка пражыць. Без навукі, зямлі нам ня хопіць. Без навукі свабода ня трываціме з намі. Вучаны, разумны сусед адбярэ яе хутка. Дый карысьць якая з жыцьця, калі ня будзем вучыцца усяго, што патрэбна людзям, каб дайсьці да мэты апошняе. Маленькае дзіцятка быццам сьляпое, хаця і мае вочы. Яно глядзіць, пазірае, ня кеміць пачатна нічога, а потым пакрысе ўяўляць пачынае бацьку з маце-раю, хату, суседзяў... Прадтым розум дзіцяці драмаў, дзеля таго і мы, — пакуль розум наш дрэме, пакуль сьвет навукі не пакажацца нам, дрэмім, маўляў, дзеці малыя. Трэба таму нам вучыцца, навуку здабыць!

А зважце на зьмест далейшы марсыльезы беларускае:

Мы дружна ўстанем з сярпамі, касамі
Прагонім зямлі палачоў!...
Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі
Грамады працоўных людзёў!...

Шмат пераможа адзін чалавек, але ніколі яму не раўняцца з грамадою. Праўда гэта ўсенькім вядомая. Таму трэба, каб устаў, прачхнуўся не адзін чалавек, не малая грамада—павет ці губэрня, а каб устаў усёханькі народ дружна, як адзін, каб ня было сваркаў у справе вялікай адраджэньня Бацькаўшчыны. Усім трэба імкнуцца, працаваць дзеля шчасьця свайго і ўстаць трэба ўсім.

А ўстаўшы завіхацца хутчэй з сярпамі, касамі, дарма не стаяць, не пазіраць, як працуюць іншыя. Ня трэ' аглядацца, што пагода мо' дрэнная, ждаць пакуль сонка заблішчыць на небасхіле. Гаспадар жыве 60—70 гадоў і да сьмерці ня ведае, калі ўдасца пасеў ці касьба—у дождж ці пагоду!

Таму трэ' завіхацца яшчэ—каб бачылі нас суседзі за работаю, каб ведалі, што шмат у нас ахвоты да працы. Хай бачаць нас за работаю, будуць нас паважаць, баючыся крануць,

Калі ўсенькі народ будзе як адзін, калі дружна ён устане — уцякуць, прападуць палачы, гэта знача благоцьце, злыбяды, дрэнныя людзі, холад і голад... Ніхто ня стрывае, ніхто ня здужае насупраць волі народу, калі ён пакажа, выявіць яе сьмела. А ён сьмела выяўляціме яе, бо-ж няма сораму у хаценьні, імкненьні да таго, дзеля чаго жыве чалавек.

Прагнаўшы бяду з хатаў сваіх, здабыўшы навуку, Беларус дужы, магутны пойдзе насустрэчу іншым народам—грамадам працоўных людзей. Сустрэнуцца ўсе яны калісь, сустрэнуцца як роўныя, вольныя сябры вялікае дружыны, шчасьлівае чалавецкасьці.

Нам трэба быць на гэным будучым сходзе народаў, бо будуць на ім усе, хто жыве, а мы-ж ня хочам памерці, нам хочацца жыць, бо гэтулькі праспалі мы у цяжкай драмоце. І прыдзем на той сход, няўхільна прыдзем, толькі памятуйма на думкі нашае марсыльезы, пяючы яе разважайма добра зьмест, а мо' хутчэй, чымся нам здаецца, прыдзе пара, калі словы

Ад векаў мы спалі і нас разбудзілі,
Мы знаем, што трэба рабіць!
Што трэба свабоды, зямлі, чалавека!
Што трэба навуку здабыць!...

астануцца далёка ззаду, а мы будзем уласьнікамі і свабоды і зямлі і будзем навукаю валадаць!

**Ст. Грынкевіч.**

